*Парламентарыі рыхтуюць заяву, у якой асуджаецца спроба канстытуцыйнага перавароту (стар. 2)*
*Георгій Таразевіч: «Прэзідэнт яўна пераацэньвае свае сілы» (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 39.500
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

23 ліпеня 1996 г. № 54 Кошт свабодны

ЗВАРОТ

## Дарагія суайчыннікі!

27 ліпеня 1996 г. спаўняецца 6 год з дня прыняцця Дэклярацыі аб незалежнасці нашай краіны. Няма ў сучаснай гісторыі Беларусі больш значнай і лёсавызначальнай падзеі. Спраўдзіліся мары многіх пакаленняў нашых продкаў аб стварэнні самастойнай беларускай дзяржавы, для якой не будзе іншага клопату, акрамя дабрабыту свайго народа. Таму мы ўпэўненыя, што з цягам часу 27 ліпеня стане нашым найвялікшым святам, падобна як у іншых эўрапейскіх краінах. Але сёння, калі нашая незалежнасць толькі становіцца на ногі, калі яна сустракае нядобразычлівае стаўленне некаторых нашых суседзяў, нават пэўных людзей у самой Беларусі, мы разумеем, як шмат трэба зрабіць, каб адстаяць і ўмацаваць незалежнасць, каб у краіне панавалі Канстытуцыя і законы, павага да чалавека і яго дабрабыт.

Таму мы заклікаем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь адзначыць нашае дзяржаўнае свята — Дзень незалежнасці — мірнымі шэсцямі, мітынгамі і святочнымі фэстамі і гэтым прадэманстраваць сваю рашучасць бачыць Беларусь вольнай, мірнай, квітнеючай краінай, адкрытай для добрасуседскіх дачыненняў на Захад і Усход, Поўнач і Поўдзень.

Жыве незалежная Беларусь!

**Нацыянальны аргкамітэт святкавання Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь: *В.Быкаў, Г.Карпенка, С.Багданкевіч, Л.Баршчэўскі, Ю.Хадыка, А.Дабравольскі, Л.Гразнова, І.Нікітчанка, С.Шушкевіч, Р.Гарэцкі, П.Данейка, Ю.Беленькі, П.Знавец, Н.Гілевіч, В.Вячорка, А.Асташынскі, А.Грыцкевіч, А.Мальдзіс, С.Гусак, В.Сіўчык, В.Каролік, В.Голубеў, А.Крываротаў, А.Бяляцкі, А.Трусаў, А.Марачкін, М.Крукоўскі, М.Анцыповіч, Ан.Станкевіч, Г.Сакалоў, У.Грушавы, В.Мацкевіч, С.Навумчык, З.Пазьняк.***

## Дэмакраты выйдуць на свята разам

**У суботу 27 ліпеня дэмакраты адзначаць Дзень незалежнасці Беларусі святочным шэсцем і мітынгам у Мінску.**

Удзельнікі акцыі збяруцца ў 10:30 у сквэры Янкі Купалы. У 11 гадзін калона рушыць па вуліцах Купалы і Багдановіча да Палаца спорту, дзе ў 11:30 пачнецца агульны мітынг Беларускага народнага фронту, лібералаў і сацыял-дэмакратаў. Скончыцца акцыя а 14-й гадзіне.

Улады не дазволілі дэмакратам выйсці на праспект Скарыны і плошчу Незалежнасці, як гэта прынята падчас важнейшых дзяржаўных святаў. Пасля перамоваў з гарвыканкамам арганізатары прыйшлі да высновы, што шэсце па галоўнай магістралі забараніла «значна больш высокая асоба». Але дэмакраты вырашылі не ісці на канфлікт у час свята і пагадзіліся з новым маршрутам.

На прэс-канфэрэнцыі з нагоды святкавання Дня незалежнасці намеснік старшыні Народнага фронту Вінцук Вячорка адзначыў, што «мітынг не будзе такім шматлюдным, як у дзень нараджэння БНР, але дасць магчымасць у дружнай згодзе прадэманстраваць рэальныя настроі ў нашым грамадстве».



*Дзень незалежнасці — 95. (Здымак з архіва).*

Прадстаўнікі трох партый задаволеныя тым, што аб'яднанне дэмакратаў адбылося напярэдадні восеньскіх падзеяў і магчымага лукашэнкаўскага рэферэндуму. Як сказаў намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, «трэба адказваць наступам на прэзідэнцкія правакацыі і выступіць адзіным фронтам падчас рэферэндуму». Віцэ-спікер Генадзь Карпенка паведаміў, што ёсць намер правесці «адзіны палітычны стол з усімі рухамі і партыямі пад эгідай Вярхоўнага Савета».

Станіслаў Багданкевіч падкрэсліў, што «спроба тайнага канстытуцыйнага перавароту, які рыхтуецца ў прэзідэнцкай адміністрацыі, непрымальная і для Вярхоўнага Савета, і для грамадства».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Кантрабанда

*СВАБОДА даведалася цікавыя падрабязнасці, звязаныя з дзейнасцю скандальна вядомай фірмы «Торгэкспо»*

Нагадаем, што гэтае гандлёвае прадпрыемства ў 1995 годзе атрымала ад прэзідэнта Лукашэнкі неверагодныя падатковыя ільготы і права на бясплошлінны ўвоз тавараў з-за мяжы. Асноўным таварам была гарэлка, якая эшалонамі ішла на Расію праз «акно» на беларускай мяжы. Бізнес рабіўся пад непасрэдным патранажам прэзідэнцкага Кіраўніцтва справамі на чале з Іванам Ціцянковым. Велізарныя даходы, якія прыносіў гэты гандаль, паступалі не ў бюджэт, а на закрытыя рахункі. Гарэлачны бізнес паспяхова працягваўся да вясны 1996 г.

Першыя праблемы ўзніклі ў красавіку. З 5.04.96 г. эшалоны «Торгэкспо» з імпартаванай гарэлкай і спіртам раптоўна «тармазнуліся» на станцыях пад Мінскам. За пару тыдняў на чыгуначных рэйках скапілася каля 400 вагонаў. Унутраным войскам было даручана ўзяць грузы пад кругласутачную ахову.

Яшчэ тады ў прэсе з'явілася першая інфармацыя аб тым, што эшалоны «Торгэкспо» спыніла Масква: расійскія ўлады вырашылі прыкрыць «беларускі калідор», праз які паступала танная заходняя гарэлка, што падрывала расійскі рынак. Але сапраўдныя прычыны, як высвятляецца, былі трохі іншыя. **Атачэнню Ельцына стала вядома, што частка даходаў, якія даваў «беларускі калідор», ішла на фінансаванне прэзідэнцкай кампаніі Зюганава. Менавіта таму Крэмль і сказаў «стоп».**

Цікава, што гэты шлагбаўм стаіць па сённяшні дзень. Напрыклад, на станцыі ў Калодзішчах пад Мінскам і цяпер яшчэ знаходзіцца сотня вагонаў. Чацвёрты месяц іх ахоўваюць салдаты Унутраных войскаў. Зрэдку пад'язджаюць «фуры» і забіраюць гарэлку. У мінулую пятніцу, напрыклад, разгрузілі тры вагоны. Спляўляецца тавар па-ранейшаму пераважна ў Расію. Але цяпер яго даводзіцца дастаўляць туды фактычна кантрабандным чынам.

Самае цікавае, што займаецца гэтым Савет бяспекі, які забяспечвае перавозчыкаў паперамі наступнага зместу (цытуем): ***«Руководителям подразделений Государственного таможенного комитета, МВД, КГБ, Государственной налоговой инспекции.*** *В соответствии с особым указанием обеспечить беспрепятственное перемещение по территории РБ грузового автотранспорта под номерами...»* Далей ідзе пералік канкрэтных нумароў і подпіс: *«Представитель Совета безопасности РБ В.Н.Погорецкий».* Але зразумела, што такая «ахоўная грамата» мае сілу толькі на беларускай тэрыторыі, а на расійскім баку — як пашанцуе (груз там можа быць затрыманы на першым жа міліцэйскім пасту і канфіскаваны, калі не ўдасца «дамовіцца»).

Нам нічога не застаецца, як выказаць спачуванне прэзідэнцкай адміністрацыі і пажадаць поспехаў у кантрабанднай дзейнасці.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



*На здымках: салдаты Унутраных войскаў ахоўваюць гарэлачныя эшалоны на станцыі ў Калодзішчах; прэзідэнцкі «заўхоз» Іван Ціцянкоў незадаволены.*



БЮДЖЭТ

## Служба бяспекі прэзідэнта фінансуецца лепш за ўсіх

*Пра гэта сведчаць афіцыйныя вынікі выканання бюджэту за першае паўгоддзе 1996 г.*

Служба бяспекі прэзідэнта, згодна з гэтымі дадзенымі, трымае першае месца сярод дзяржаўных структур, якія жывуць з бюджэту. Яе фінансаванне за паўгоддзе склала ажно 103% ад запланаванай сумы (у абсалютных лічбах — 5.604 мільёнаў руб.). У той жа час, напрыклад, народная гаспадарка была прафінансавана ўсяго на 41,6%, расходы на навуку склалі 51,6% ад узроўню, які планаваўся на 6 месяцаў, культура атрымала 55,8% сродкаў, ахова здароўя — усяго 43,4%. Замыкае "турнірную табліцу" такая графа, як «расходы на знешнеэканамічную дзейнасць» — толькі 17% ад неабходнага. Упарта ж мы прарываемся на міжнародны рынак тавараў!

Як паказваюць лічбы, пачаліся цяжкасці і з фінансаваннем сілавых структураў, хаця з большага іх прывілеяванае становішча захоўваецца. Міністэрства абароны атрымала 81% сродкаў, унутраныя войскі — 77,8%, органы дзяржаўнай бяспекі — 86,2%. Крышачку недабрала галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай аховы. Сюды было «ўкінута» за паўгоддзе ажно 14.370 млн. рублёў, што склала 97% ад плана.

А як жа збіраліся тыя грошы, якія потым размяркоўваліся па пакоях камуналкі пад назвай «Рэспубліка Беларусь»? Аказваецца, з велізарнымі цяжкасцямі. У бюджэт паступіла толькі 67,4% ад запланаваных даходаў. Вельмі марудна папаўнялася казна за кошт такіх крыніц, як падаткі на прыбытак і даходы (атрымана 49,8% ад плана), мытныя пошліны і зборы (49,2%), падаткі на нерухомасць (51,2%), плата за зямлю (22,8%). Нават ад увядзення акцызаў было атрымана толькі 62,4% ад запланаванай сумы. Толькі чаму тут здзіўляцца, калі ў нашай краіне набліжаныя да вышэйшага кіраўніцтва маюць магчымасць атрымаць «за прыгожыя вочы» ільготы ў падаткаабкладанні? Варта ўзгадаць хаця б фірму «Торгэкспо» ці той жа славуты фонд Махмуда Эсамбаева.

Карацей кажучы, нават па артыкулах бюджэту бачна, што такое «рынкавы сацыялізм»: гэта калі адных фінансуюць, як пры сацыялізме, а з другіх патрабуюць, як на рынку.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Альтэрнатыва рэферэндуму

## *Парламентарыі рыхтуюць заяву, у якой асуджаецца спроба канстытуцыйнага перавароту*

**Станіслаў Багданкевіч у інтэрв'ю СВАБОДЗЕ заявіў, што фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» ўжо прыняла прынцыповае рашэнне выйсці на «прэзідэнцкі» рэферэндум з альтэрнатыўнымі пытаннямі. Вядома ж, іхні змест моцна будзе залежаць ад сэнсу і накіраванасці пытанняў, якія прапануе народу Аляксандр Лукашэнка.**

Тым не менш, упэўнена можна сцвярджаць, што «грамадзяне» пачнуць ініцыіраваць пастаноўку на народнае галасаванне праблемы ўсеагульных выбараў кіраўнікоў мясцовых органаў улады. *«Поўная выбарнасць мясцовых кіраўнікоў — адзін з крокаў, які павінен спыніць неабмежаваны рост паўнамоцтваў прэзідэнта»*, — гаворыць Багданкевіч. Дарэчы, можна нагадаць, што патрабаванне аб непасрэдных выбарах кіраўнікоў мясцовай улады вылучаў у свой час кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка — але праз некалькі месяцаў пасля абрання стварыў прэзідэнцкую «вертыкаль», чарговы раз падмануўшы сваіх выбаршчыкаў.

Хутчэй за ўсё «Грамадзянскае дзеянне» будзе імкнуцца вынесці свае пытанні на рэферэндум шляхам збору сямідзесяці дэпутацкіх подпісаў, як гэта прадугледжвае Канстытуцыя. Багданкевіч паведаміў, што бліжэйшым часам плануецца стварыць каардынацыйнае бюро з прадстаўнікоў трох ідэйна блізкіх фракцый — «Грамадзянскага дзеяння», сацыял-дэмакратычнай і аграрнай. *«Калі справа дойдзе да зацверджання нашых пытанняў, існуе вялікая верагоднасць, што мы атрымаем парламенцкую большасць»*, — лічыць Багданкевіч.

Разам з тым лідэр «грамадзян» вельмі праўдападобным бачыць варыянт, пры якім Аляксандр Лукашэнка прызначыць рэферэндум сваім указам, парушаючы такім чынам Канстытуцыю. Пры такім развіцці падзей фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» будзе настойваць на імпічменце.

*«Цяпер у парламенце рыхтуецца заява, у якой асуджаецца спроба канстытуцыйнага перавароту. Калі нейкая група прэзідэнцкіх «спецыялістаў» у поўнай тайне ад грамадскасці і заканадаўчай улады «вынаходзіць» змены ў Канстытуцыю, гэта фактычна можна назваць спробай перавароту. Спадзяюся, што кіраўнікі большасці фракцый падпішуць гэтую заяву»*, — гаворыць лідэр «ГД».

Багданкевіч таксама ўпэўнены, што першыя ж дні працы восеньскай сесіі Вярхоўнага Савета, якая адкрыецца 3 верасня, павінны пачацца з унясення зменаў у закон аб рэферэндуме. У прыватнасці, неабходна заканадаўча ўстанавіць аднолькавую колькасць часу на дзяржаўным тэлебачанні для тых, хто выступае «за» і «супраць».

Сам Станіслаў Антонавіч летам застаецца ў Мінску, «на баявым пасту». На дачы спарахнела і правалілася столь, таму ўвесь свой адпачынак Багданкевіч мяркуе цяслярнічаць. *«Буду вучыцца другой спецыяльнасці — на ўсялякі выпадак»*, — жартуе былы галоўны банкір краіны.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Шклоўскія цырульнікі трацяць цярпенне

**Цырульнікі Шклоўскага камбіната бытавога абслугоўвання правялі сядзячую забастоўку.**

Яны патрабавалі выплаціць зарплату, якую не атрымоўваюць з красавіка. Адміністрацыя «разлічылася» з забастоўшчыкамі па-свойму: ініцыятара акцыі Валянціну Рэзіну звольнілі з працы, астатнім аб'яўлены вымовы.

Камбінат бытавога абслугоўвання запазычыў бюджэту 500 мільёнаў рублёў, а дырэктар КБА сёлета перайшоў на працу чацвёртым намеснікам старшыні райвыканкама.

**Аляксандр ШЧАРБАК**

# Апошнія жыхары чарнобыльскай вёскі

**У вёсцы Шалухоўка Краснапольскага раёна засталася жыць толькі сям'я Журавых.**

Яшчэ пяць год таму вёска была адселеная і зруйнаваная: зямля моцна забруджаная радыяцыяй, і жыць тут небяспечна. Але сям'я, якая складаецца з трох чалавек (мужу і жонцы — 34 і 30 год, дачцэ — паўтара гадкі), так і не з'ехала адсюль, яны засталіся ў вёсцы зусім адны. З'язджаць не згадзіліся нават, калі нядаўна згарэў дом. Цяпер апошнія шалухоўцы жывуць у старой лазні, тут жа трымаюць і свіней. Кажуць, што «не хочуць кідаць нажытае, бо на новым месцы іх нічога добрага не чакае». А што ж добрага на старым?

**Іван ЗАСАДА**

# Асцярожна: шаленства!

**Як паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры эпідэміялогіі і гігіены, у Беларусі па-ранейшаму захоўваецца высокі ўзровень небяспекі шаленства.**

Асабліва многа выпадкаў шаленства сярод дзікіх і свойскіх жывёл зарэгістравана на Віцебшчыне, а таксама ў Магілёўскай і Мінскай абласцях. Сёлета ўпершыню за апошнія чатыры гады ахвярай гэтай смяротнай хваробы стаў чалавек. 32-гадовая жыхарка вёскі Сялец Смаргонскага раёна, забіўшы ў сваім двары лісіцу, вырашыла зняць з яе шкуру; у выніку інфекцыя трапіла ў кроў.

Згодна са статыстыкай мінулага года, больш як 21 тысяча чалавек былі пакусаныя свойскімі жывёламі (сабакамі, катамі) і дзікімі звярамі (ваверкамі, лісіцамі, янотамі, ваўкамі). Асаблівую пагрозу ўяўляюць бяздомныя сабакі ў гарадах. Сёлета іх адстрэлілі ўжо каля 20 тысяч.

**Яўген КАВАЛЁЎ**

# Каму дазволяць прадаваць гарэлку?

**Міністэрства гандлю распрацоўвае новыя захады па ўпарадкаванні гандлю лікёра-гарэлачнымі вырабамі.**

Не так даўно ўрад ўжо прыняў некаторыя меры, якія павінны былі падтрымаць айчынных вытворцаў спіртнога: быў уведзены новы парадак выдачы ліцэнзій прадпрыемствам гандлю на продаж алкаголю, да 50% была павышаная гандлёвая надбаўка на імпартаваныя лікёра-гарэлачныя вырабы. Аднак гэта не дало чаканага эфекту, а спажыўцы атрымалі чарговы скачок цэн.

Цяпер у міністэрстве гандлю рыхтуецца яшчэ адзін крок — вызначыць на конкурснай аснове некалькі (5—10) фірм-імпарцёраў, каб толькі яны маглі пастаўляць на Беларусь алкагольныя напоі з-за мяжы. На думку спецыялістаў міністэрства, «гэта дасць магчымасць выключыць увоз на рынак танных, а значыць няякасных імпартных тавараў, абароніць беларускіх вытворцаў».

Што ж, нядаўна гэтаксама, ва ўмовах тэндэра (конкурсу), быў вызначаны пералік фірмаў, якім далі фактычна манапольнае права на імпарт тытунёвых вырабаў. Вынік добра вядомы: танных цыгарэтаў сапраўды не стала, толькі вось якасць тытуню зусім не павысілася.

*БелаПАН*

КЛОПАТЫ

# У Смаргоні ніяк не пабудуюць падземную прыбіральню

На апошняй сесіі Гродзенскага аблсавета дэпутатам замест традыцыйнага даклада (ён быў папярэдне надрукаваны ў газеце) прапанавалі кінасеанс. 55 хвілін яны глядзелі відэафільм пад назвай «Гарачае лета камунальнікаў». Дэпутаты адпачывалі як на «Санта-Барбары», хоць героі фільма кожную хвіліну скардзіліся на тое, як ім цяжка забяспечваць насельніцтва «вадой, каналізацыяй і цяплом». А галоўная цяжкасць у тым, што сёлетні бюджэт складаўся з улікам таго, што насельніцтва нарэшце прымусяць аплочваць са сваёй кішэні 80 працэнтаў кватэрплаты. Таму цяпер толькі ў Гродне няма на што зрабіць капітальны рамонт амаль 300 дамоў.

У Смаргоні свая праблема. У год, калі перастаў існаваць СССР, у горадзе пачалі будаваць падземную прыбіральню. Будоўля цягнецца ўжо пяць гадоў і канца ёй няма. Як паскардзілася дэпутатам старшыня Смаргонскага гарсавета Ванда Мацкевіч, з-за недахопу сродкаў сёлета будоўлю ўвогуле давялося «замарозіць». Вось бы тыя грошы, якія ўлады змарнавалі на тое, каб Зянона Пазьняка не прапусціць ў Вярхоўны Савет па смаргонскай гарадской акрузе, выкарысталі па прызначэнні, дык людзі хоць займелі б усім патрэбны аб'ект і не бегалі б болей у кусты...

З вялікім дырэктыўным імпэтам на сесіі выступіў намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Георгі Дабравольскі, які расказаў пра «стратэгію і тактыку камунальнікаў». Прысутныя, адчуўшы застойны дух даклада, пачалі пазяхаць і пасміхацца. Але сп. Дабравольскаму галоўнае, напэўна, было спадабацца «незримо присутствующему» ў зале «бацьку». Нездарма ж ён усё паўтараў: «палітыка нашага міністэрства выцякае з указанняў прэзідэнта» або «як указаў прэзідэнт... галоўнае — дысцыпліна і адказнасць за даручаную справу».

Увогуле традыцыя дзякаваць «лично Леониду Ильичу» пачала імкліва адраджацца. Напрыклад, начальнік управы адукацыі аблвыканкама Аляксей Саўчык замест таго, каб біць у званы з прычыны паўторнага знішчэння беларускага школьніцтва, біў у святочныя літаўры. Маўляў, «мэта нашай работы вызначана прэзідэнтам і адпавядае рашэнням рэферэндума, які ініцыяваў прэзідэнт». Карацей, нешта накшталт «Ура! За Родину, за Сталина!», толькі ў сучасным варыянце.

Галоўнай радасцю чыноўнікаў і дэпутатаў у галіне эканомікі стаў той факт, што за першае паўгоддзе (у параўнанні з адпаведным часам 1995 г.) валавая вытворчасць прадукцыі ў вобласці падвысілася ажно на 1,5 працэнта! Аднак затое з пачатку года на 20 працэнтаў павялічыліся залежы гэтай прадукцыі на складах і сёння яе там ёсць на 753 мільярды рублёў! Тым не менш, на радасцях дэпутаты прагаласавалі за ўсё, не абмяркоўваючы, абы хутчэй.

Настрой ім, аднак, сапсаваў член Прэзідыума ВС Сямён Домаш (ён таксама і дэпутат аблсавета), які адказвае за сувязь з мясцовымі Саветамі. Перастаньце цешыцца гэтымі 1,5 працэнта, сказаў ён. Трэба працаваць не на склад, а прадаваць сваю прадукцыю, прычым пажадана, каб за мяжу, інакш дзяржава можа збанкрутаваць і скончыць сваё існаванне. А ў нас замест правядзення рэформаў толькі распальваецца канфрантацыя. Тым жа часам праводзяцца ўсялякія пампезныя фестывалі, конкурсы. Гэта ж проста амаральна, бо ў людзей няма працы і няма на што жыць. Але, на жаль, энергія і актыўнасць некаторых дзяржаўных асоб накіравана сёння на далейшае разбурэнне. Сп. Домаш папярэдзіў, што калі чыноўнікі будуць надалей выконваць указы, прызнаныя Канстытуцыйным судом незаконнымі, ім потым давядзецца адказваць перад судом.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

ІНТЭРВ'Ю

# Георгій Таразевіч: «Прэзідэнт яўна пераацэньвае свае сілы»

*СВАБОДА звярнулася да Георгія Таразевіча — вядомага ў Беларусі і ў былым СССР палітыка — з просьбай пракаментаваць апошнія ініцыятывы беларускага прэзідэнта.*



**— Аляксандр Лукашэнка зноў вырашыў выкарыстаць рэферэндум як сродак палітычнай барацьбы. Як вы ставіцеся да гэтай ініцыятывы?**

— Відавочна, што прэзідэнт спяшаецца. У смутныя часы, як вядома, у людзей эмоцыі звычайна перамагаюць розум, а не наадварот. Вось чаму той, хто гэтым карыстаецца, можа атрымаць палітычную перамогу дзякуючы рэферэндуму. Апошняя прапанова прэзідэнта дэманструе, што ён і ягонае атачэнне спалохаліся. Яны разумеюць, што яшчэ крыху — і ў людзей розум пачне перамагаць эмоцыі, а тады стане немагчымым імі маніпуляраваць. Падаўжэнне прэзідэнцтва да 7 год — гэта спроба адцягнуць як мага далей той самы час, калі людзі пачнуць кіравацца розумам у адносінах да таго, каго абралі сваім кіраўніком. А прапанову двухпалатнага парламента нельга не ўспрымаць як рэакцыю на пагрозу імпічменту. Тое самае і адносна Канстытуцыі. Прэзідэнт баіцца страціць уладу — вось і ўсё.

**— Ці не здаецца вам, што гаварыць аб імпічменце ўжо запозна?**

— Хутчэй я б засумняваўся ў тым, што парламент на яго здольны цяпер. Калі разважаць пра магчымасць адстаўкі Лукашэнкі, то яна рэальна з'явіцца ў выніку пройгрыша прэзідэнта на рэферэндуме. Лукашэнка тут яўна рызыкуе, пераацэньвае свае сілы. Нават калі ён прайграе па пытанні аб павелічэнні тэрміну прэзідэнцтва, імпічмент стане непазбежны. А галоўнае, ён будзе з задавальненнем успрыняты грамадствам.

**— Вы верыце ў тое, што прэзідэнт Беларусі сапраўды аказваў фінансавую дапамогу Зюганаву ў яго спробах перамагчы Ельцына на выбарах?**

— Пакуль я не знаёмы з усімі фактамі. У маім палітычным жыцці было дастаткова выпадкаў, калі не пацвярджалася тое, аб чым усе казалі. Але што ўжо відавочна, гэта наступнае: прэзідэнт і ягоная каманда аказаліся недальнабачнымі, яны памыліліся ў прагнозе наконт таго, хто атрымае перамогу. Мне вядома, што годам раней яны бачылі ў пераможцах Жырыноўскага, у гэтым годзе да апошняга рабілі стаўку на Зюганава. Упэўнены, што такая памылка вельмі дрэнна адаб'ецца на нашых адносінах з Расіяй, а калі пацвердзяцца факты грашовай дапамогі — гэта ўжо двайны стандарт у палітыцы.

**— Ці паступалі вам у свой час прапановы ўключыцца ў каманду прэзідэнта?**

— Не. А калі б паступілі, я б адмовіўся, аб чым яны добра ведалі. Яшчэ да адстаўкі з пасады пасла ў Польшчы я публічна заявіў, што з гэтай камандай супрацоўнічаць не буду.

**— Вы мелі надзею, што сітуацыя хутка зменіцца?**

— Не меў. Увогуле, цяжка сказаць, колькі часу спатрэбіцца беларусам, каб змяніць сітуацыю. Гэта будзе залежаць ад вельмі многіх фактараў. У тым ліку ад актыўнасці палітычных сіл і ад пазіцыі атачэння прэзідэнта. Там таксама неадназначнае становішча, многія вакол прэзідэнта ўжо трацяць давер да яго менавіта з-за невызначанай і папулісцкай палітыкі. У мяне нават няма ўпэўненасці, што сілавыя ведамствы стануць дапамагаць прэзідэнту, калі той атрымае імпічмент. Нельга казаць, што яго падтрымлівае і «вертыкаль»: проста яны ад яго залежаць, атрымліваюць заробкі, нейкія іншыя выгоды. Але толькі старшыня райвыканкама адчуе, што мяняецца становішча — ён не будзе яго падтрымліваць. Тое самае і адносна дырэктараў буйных прадпрыемстваў. А ўзяць старшыняў калгасаў. За два гады праўлення сённяшняга прэзідэнта многія калгасы канчаткова збанкрутавалі, за што ім падтрымліваць Лукашэнку?

**— Як жа патлумачыць, што адзін чалавек усіх перамагае?**

— Ведаеце, трэба ўсё ж рабіць папраўку на нашае мінулае. Працуе менталітэт, паводле якога кіраўнік увасабляе і цара, і воінскага начальніка і нават Бога. Акрамя таго, у Лукашэнкі не адмяцеш якасці добрага аратара, чалавека, які знаходзіць падыход да аўдыторыі. Але нездарма ў народзе кажуць: адзін раз схлусіў — другі раз не паверачь. Толькі патрэбны час, каб людзі зразумелі, што іх падманулі.

**— Цяпер і прэзідэнт, і ягоныя палітычныя апаненты актыўна шукаюць ідэалогію, на якую можна абаперціся. Спрабуюць знайсці ключык, які дапаможа адчыніць дзверы ў заўтра. Вы ведаеце, дзе ён схаваны?**

— Я дакладна ведаю адно: трэба сыходзіць з простых рэчаў. Напрыклад, трэба вырашыцца з праблемай: мы — самастойная краіна ці невядома хто. Пакуль я не бачу, каб улада мела адказ на гэтае пытанне, і таму атрымліваецца, што мы — невядома хто. Але такога не бывае, каб гісторыя пачыналася толькі з нас. Прэтэнзіі на першароднасць дзяржавы так і застануцца прэтэнзіямі, а народ усё роўна вернецца да сваіх крыніц. Вось чаму я за падтрымку нацыянальнай ідэі, без якой немагчыма аб'яднаць насельніцтва ў народ. Беларусь не павінна страціць сваю незалежнасць.

**— Вы лічыце, што сённяшняя палітыка ўлады вядзе да страты суверэнітэту?**

— Рэальная палітыка, а не тое, што дэкларуецца, сапраўды паступова памяншае наш суверэнітэт. Ідзе адкат нават у параўнанні з 1995-м годам. Галоўнае, чаго мы пакуль не здолелі выкарыстаць, — нашае геапалітычнае становішча. Калі неабходна, трэба было нават жорстка адстойваць свае інтарэсы. Як з тым жа транзітам. Чаго дамагліся нашыя кіраўнікі? Так званы «нулявы варыянт» аказаўся зусім не нулявым, наш доўг не спісаны, а нават кожны дзень павялічваецца. За яго давядзецца разлічвацца буйнейшымі прадпрыемствамі краіны — вось вам цана палітыкі тых, хто дагэтуль не вызначыўся, хто ён і куды ідзе.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

СВАБОДА
23 ліпеня 1996 г., № 54

*Местные власти в зеркале общественного мнения*

# «Вертикаль» оценивают на «два с плюсом»

**Игорь ПЕЛИПАСЬ,**
***кандидат экономических наук, заместитель директора НИСЭПИ***

Как показал национальный опрос, местные власти не пользуются доверием и поддержкой населения — лишь 5,1 % респондентов связывают с ними свои надежды на выход страны из экономического кризиса (для сравнения: с помощью Запада — 16,4 %, с белорусскими предпринимателями — 15,8 %, с иностранным капиталом — 14,0 %). Из всех основных структур государства работа местных властей получила наименьшую оценку — 2,38 балла (по пятибальной шкале).

**Почему же нынешняя «вертикаль» практически утратила доверие народа?**

На наш взгляд, причин тому несколько. Во-первых, в общественном сознании сформировался весьма устойчивый негативный образ представителей местной власти. Например, более 40 % респондентов считают, что местным «слугам народа» свойственны такие качества, как жажда наживы и склонность к жульничеству.

Причем негативное мнение о представителях власти (в отличие, например, от образа отечественного предпринимателя или западного инвестора) формируется, так сказать, естественным путем. Если в случае с предпринимателями сильное влияние на массовое сознание оказывают СМИ, которые рисуют бизнесмена чаще всего как хитрого жулика и наглого рвача, то представления людей о власть предержащих, особенно на местном уровне, складываются на основе собственого опыта. Люди, как правило, хорошо знают, из чего и как складывается реальная жизнь и деятельность представителей власти, особенно на местах.

Понятно, что граждане, которые так думают о власти, не только не ждут от нее помощи, но предпочитают держаться от нее подальше. Однако не надо думать, что если эти люди предпочитают не иметь дела с властями, то они вообще забывают об их существовании и решают свои проблемы сами. В такой ситуации чаще всего проблемы остаются нерешенными, и люди этого отнюдь не забывают. Об этом, в частности, свидетельствует тот факт, что ответственность за ухудшение экономического положения в стране, а следовательно, и своей собственной жизни, свыше 70 % опрошенных возлагают на структуры исполнительной власти, в том числе 16,3 % — на местную власть. Сочетание таких установок в общественном сознании — негативного образа исполнительной «вертикали» с возложением на нее вины за ухудшение жизни — неизбежно принимает форму социального конфликта, пока что открыто не выраженного, но достаточно четко осознанного.

В этой связи становится совершенно очевидно, что исполнительная «вертикаль», созданная президентом Александром Лукашенко полтора года назад и ставшая опорой его политики, не только не стала эффективным институтом государственного управления, но, наоборот, способствовала укреплению авторитаризма и углублению социально-экономического кризиса. Поскольку же разрушение системы Советов, которые создавали хотя бы видимость народовластия, привело к нарушению самого принципа выборности органов власти, фактически ликвидировало какое бы то ни было местное самоуправление (поэтому, когда люди оценивают местную власть, они оценивают именно «вертикаль», а не утратившие влияния Советы) — все более стремительно развивается и кризис политический.

Впрочем, справедливости ради надо сказать, что катастрофическое падение доверия общества к президентской «вертикали» нельзя рассматривать лишь как свидетельство непрофессионализма этой многочисленной группы местных руководителей и чиновников. В регионах работает немало высокопрофессиональных, энергичных и порядочных специалистов, способных проводить необходимые стране реформы. Но практически все они «повязаны» тотальной зависимостью от вершины пирамиды политической власти и вынуждены следовать курсу, катастрофические последствия которого видят даже лучше иных аналитиков.

**Какое будущее ждет исполнительную «вертикаль» в контексте описанных проблем и тенденций?**

Проведенный нами анализ показывает, что исполнительная «вертикаль» на деле является не столько опорой, сколько заложником политики президента. В условиях нарастающего кризиса президент, как воздухоплаватель, чей шар стремительно теряет высоту, постарается избавиться от самого тяжелого балласта, в качестве которого, весьма вероятно, выступит именно «вертикаль» (если не вся, то значительная ее часть).

В самом деле, такой ход может быть весьма эффектным, особенно в преддверии осенних довыборов в местные Советы: президент признает «определенные ошибки и серьезные упущения» и «сдает» собственную «вертикаль» как наиболее раздражавшую народ структуру власти и «не оправдавшую» доверия главы государства («сдать» правительство недостаточно, поскольку министров немного, да и «далеки они от народа», а «сдать» парламент или Конституционный суд гораздо труднее, да к тому же они изначально не были «своими»). В итоге президент опять выигрывает: удовлетворяет «чаяния народа» и демонстрирует всему миру, что не только с врагами непримирим, но и «со своими» достаточно строг.

На самом деле такой ход может выглядеть **эффектным** лишь внешне, но он никак не может быть **эффективным** с точки зрения реального совершенствования государственного управления и удовлетворения подлинных интересов и ожиданий народа. На место тех, кем президент согласится пожертвовать, будут назначены новые руководители, которые точно так же будут зависеть от того, кто их **назначил**, а не от тех, кто их **выбрал**. Необходимость кардинальной смены самого механизма формирования местных органов власти становится очевидной не только политикам и аналитикам, но и простым людям: три четверти опрошенных считают, что **«глава местной исполнительной власти должен избираться всем населением соответствующей территории»**, лишь менее 16 % согласились с тем, что это «должен делать президент». Поэтому, на наш взгляд, всем политическим и общественным силам, заинтересованным в преодолении тотального кризиса, развитии демократии и повышении уровня жизни в Беларуси, необходимо добиться создания нового механизма формирования органов местной власти — **выборы вместо назначения.**

*Материал подготовлен на основании результатов национального опроса, проведенного в мае-июне с.г. Независимым институтом социально-экономических и политических исследований в рамках нового проекта «Формирование общественных лидеров в посткоммунистической Беларуси». Опрошено 1535 человек (ошибка выборки = 3 %).*

## Цены вверх – карманы вниз

**На предыдущей неделе произошло очередное повышение цен на продовольственные товары в магазинах Беларуси.**

Для кого-то рост цен остался почти незаметным — эта категория граждан узнает о происшедшем лишь из газет. Для большей же части населения увеличение стоимости продуктов, входящих в состав минимальной потребительской корзины, не могло остаться незамеченным (кстати, последнее повышение минимальной заработной платы имело место в январе 1996 г.).

За прошедшую неделю в Минске повысились цены на основные продукты питания около полутора десятков наименований. Например, цена хлеба (белорусского формового весом 0,9 кг) выросла на 4%, батона — 3,7%, фарша — 5,1%, вареной колбасы — 3,2%, пельменей — 2,2%.

По утверждению представителей Комитета цен Минэкономики, повышение произошло по причине роста отпускных цен на вышеупомянутые и ряд других товаров. Отпускные же цены, в свою очередь, увеличились за счет включения в них не компенсированных ранее расходов, связанных с увеличением стоимости муки, соли и ростом закупочных цен на свинину (это произошло 24 июня и 7 июля текущего года). Итак, цены подняли производители и изготовители. Повышение стоимости товаров в магазинах — лишь следствие.

Ранее цены в столице не подскакивали более чем на 3 %. Теперь и здесь ситуация изменилась. Рост цен на муку первого сорта, к примеру, составил 5,7%, на муку высшего сорта — 7,3%, соль — 5,9%, свинину первой категории — 9,9%, яйца — 11%, сахар — 12%. При этом отпускные цены на муку пшеничную выросли на 5,1%, соль — 16,3%, на мороженую рыбу — 17,8%.

В связи с таким значительным удорожанием продуктов питания у народа, естественно, возникло чувство недовольства (сопровождаемое таким знакомым чувством безысходности) и опасение, не последуют ли за 15-ю уже подорожавшими товарами и остальные.

Особое беспокойство, как, впрочем, и каждое лето, вызывают слухи о повышении цен на водку и другие спиртные напитки. Однако, как уверяют представители Комитета цен министерства экономики, в настоящее время никаких мер в этом направлении принимать не планируется. Учитывая же, что цены на спиртные изделия «не свободны», а устанавливаются государством, трудно с полной уверенностью утверждать, что роста не будет. Другое дело, что и об этом мы узнаем «вдруг», заглянув в магазин.

**Наталья УЛЕВСКАЯ**

***РЕЙТИНГ ООН***

## Разрыв между богатыми и бедными странами углубляется

*Согласно докладу ООН, граждане Беларуси живут хуже, чем русские, поляки и чехи, но значительно лучше, чем африканцы*

Организация Объединенных Наций опубликовала седьмой по счету ежегодный Доклад о развитии и социально-экономическом положении людей в различных странах мира. Республика Беларусь в этом списке, который включает 174 государства, стоит на 61-м месте. Россия занимает 57-е место, Польша — 56, Латвия — 55. Наилучшие показатели среди посткоммунистических стран имеет Чехия, которая поднялась на 37-е место, вплотную приблизившись к наиболее развитым государствам (с точки зрения социально-экономического положения их граждан). Таковыми, согласно рейтингу ООН, являются: *1. Канада, 2. США, 3. Япония, 4. Нидерланды, 5. Норвегия, 6. Финляндия, 7. Франция, 8. Исландия, 9. Швеция, 10. Испания, 11. Австралия, 12. Бельгия, 13. Австрия, 14. Новая Зеландия, 15. Швейцария, 16. Великобритания, 17. Дания, 18. Германия, 19. Ирландия, 20. Италия.*

Конечно, очень жаль, что Беларусь стоит в этом рейтинге далеко от стран-лидеров. Но не будем огорчаться. Гораздо ниже нас в этом списке находятся, например, *Турция (84 место), Китай (108), Ирак (109), Гаити (145)*. А замыкают список *Сомали (172), Сьерра-Леоне (173) и Нигер (174 место).*

В докладе отмечается, что качество жизни людей нельзя измерить только одной категорией — доходами. Например, и в Эквадоре, и в Марокко среднегодовой доход на душу населения составляет около 1.000 долларов; между тем Эквадор, в котором число грамотных людей среди взрослого населения составляет 29 процентов, стоит на 64 месте в этом списке, а Марокко, где показатель грамотности составляет 42 процента, — на 123 месте.



***ПАМЯТЬ***

## Крест солдатам Первой мировой



В прошедшую пятницу, 19 июля, недалеко от деревни Крево Сморгонского района, был установлен крест в память о погибших здесь солдатах Первой мировой войны. Инициатива установки памятного знака на этой «братской могиле» принадлежит вице-президенту белорусского клуба «Бонн—Минск» Юрию Попову.

В течение двух с половиной лет через Крево проходила линия фронта между кайзеровскими и царскими войсками. Во время боев солдаты обеих армий погибали тысячами, в том числе от применявшихся ядовитых газов. Сама деревня оказалась сдавленной со всех сторон.

Местный священник отец Валентин, напомнив, что знаменитый маршал Жуков в то время воевал здесь в звании унтер-офицера царской армии, подчеркнул, что нельзя делать различия между Первой и Второй мировыми войнами. Отец Валентин обратился к «братьям и сестрам» с призывом «вспомнить о всех честных, истинных солдатах-христианах всех национальностей, которые жизнь свою положили за други своя».

В открытии памятного знака участвовали жители Крево, среди которых были свидетели военных действий против кайзеровских солдат. После освящения креста кревянцы рассказали, что еще до 1938 года на этом месте была деревянная табличка в память жертв войны, возле которой по вечерам дети зажигали свечи. В 1966 году местный учитель Петр Гринкевич установил здесь мемориальный камень. Местные жители признались, что тогда им не хватило совести поддержать это смелое действие. Выступившие на открытии сожалели, что практически ничего неизвестно о событиях Первой мировой войны не только в Крево, но и на всей территории Беларуси.

Юрий Попов назвал также «работой для будущего» восстановление сельских кладбищ возле деревни Крево, разрушенных во время боев Первой мировой войны.

**Астрид ЛОРЕНЦ**



*Астрыд Лорэнц (на здымку), 21-гадовая студэнтка Берлінскага свабоднага універсітэта, праходзіць цяпер стажыроўку ў рэдакцыі СВАБОДЫ. Астрыд вывучае паліталогію, валодае рускай і англійскай мовамі. Стажыравалася ў нямецкай газеце Frankfurter Rundschau.*

ДАЙДЖЭСТ

## Грозная «іспанка» – хто яна?

**Эпідэміёлагі з ЗША і Канады збіраюцца даследаваць вірус «іспанкі» — загадкавай хваробы, ад якой у 1918—1920 гг. у Еўропе загінула больш людзей, чым падчас І Сусветнай вайны.**

Для гэтага вучоныя маюць намер дастаць з тоўшчы арктычнага лёду каля нарвежскага вострава Шпіцберген целы сямі чалавек, якія памерлі ад «іспанкі». Дагэтуль лічылася, што «іспанка» — разнавіднасць грыпу, але сёння гэтая тэорыя выклікае пэўныя сумненні. На думку даследчыкаў, адмоўная тэмпература законсервавала і сам вірус, і пашкоджаныя тканкі. Распрацоўваюцца спецыяльныя меры перасцярогі, каб інфекцыя не трапіла «на волю».

## Бялок-забойца

**Швейцарскія навукоўцы з Федэральнага тэхналагічнага інстытута ў Цюрыху высветлілі структуру малекулы прыёну — бялка, які мае дачыненне да развіцця так званага шаленства кароў і хваробы Кройцфельдта-Якаба ў людзей.**

Прыёны — адзіныя бялкі чалавечага арганізма, якія маюць здольнасць самасінтэзу, павялічэнне іх колькасці прыводзіць да пагібелі нервовых клетак. Адкрыццё будовы прыёнаў (малекула нагадвае доўгую пакручастую макароніну) дае шанцы вынайсці эфектыўны сродак супраць прыёнавых хвароб — на сённяшні дзень усе яны прыводзяць да смерці.

## Генетычны код інтэлекту

**Інтэлектуальныя здольнасці чалавека абумоўліваюцца ў асноўным комплексам генаў, якія знаходзяцца ў Х-храмасоме.**

Пра гэта сведчаць апошнія адкрыцці аўстралійскіх ґенетыкаў. Менавіта таму, піша часопіс *Lancecie*, дзяўчынкі, якія атрымліваюць Х-храмасомы ад абодвух бацькоў, у прынцыпе маюць удвая вышэйшы інтэлектуальны патэнцыял і больш здольныя да вучобы. З другога боку, адна Х-храмасома арганізма хлопчыкаў больш схільная да мутацыі, таму сярод мужчынскай паловы чалавецтва часцей сустракаюцца і пасрэднасці, і геніі.

## Бык-гігант

**Самага вялікага быка ў свеце выгадавалі спецыялісты-генэтыкі на станцыі селекцыі жывёл ў горадзе Убераба (Бразілія).**

Гэты 12-месячны гігант важыць ажно 538 кг.

## Мухі замест пластыра?

**Дактары з Оксфардскага і Каліфарнійскага універсітэтаў выпрабавалі арыгінальны метад лячэння ран.**

Высветлілася, што калі на рану памясціць лічынкі пэўнага віду мух, то яны эфектыўна знішчаюць мёртвыя тканкі і бактэрыі, запаленне не ўзнікае, а рана хутка гоіцца.

## Крэдытная картка бедняка

**Мексіканскі ўрад рыхтуецца выпусціць магнітны варыянт харчовых картак.**

Такія карткі атрымаюць 15 млн. самых бедных мексіканцаў. З іх дапамогай можна будзе бясплатна атрымаць мінімальны набор тавараў самай першай неабходнасці. Аднак такая льгота накладвае на ўладальнікаў картак і пэўныя абавязкі — двойчы ў месяц наведваць медыцынскія цэнтры і рэгулярна вадзіць дзяцей у школу. Улады вырашылі, што жанчынам у гэтым сэнсе можна больш давяраць, таму карткі будуць выдавацца на імя маці сям'і.

## Шведы любяць эскімо

**Калі вы думаеце, што марозіва найбольш ядуць у краінах з гарачым кліматам, то памыляецеся.**

Статыстыка сведчыць пра адваротнае: больш за іншых еўрапейцаў «халодную слодыч» любяць жыхары Швецыі, дзе доўгія і халодныя зімы, а таксама ў дажджліва-туманнай Ірландыі. З другога боку, у выпешчаных сонцам Грэцыі ды Партугаліі (і гэта пры тым, што ў летні час туды наязджаюць сотні тысяч турыстаў!) спажываецца марозіва ажно ў чатыры разы менш.

А рэкорд Гінэса ў вытворчасці марозіва належыць нашым суседзям — палякам. Польская фірма *Augusto* ўхітрылася зрабіць самае вялікае марозіва «на палачцы» — яно мела чатыры метры даўжыні, два — шырыні, а важыла амаль 9 тон. На працягу аднаго дня яго пакаштавала ажно 70 тысяч чалавек.

**Спажыванне марозіва ў Заходняй Еўропе**
*(літраў на аднаго жыхара ў год)*




# Брава, асілкі!

## *Беларусь адкрывае лік алімпійскім медалям*

Атланта 1996

Гульні XXVI Алімпіяды, якія доўгія чатыры гады былі марай усяго спартыўнага свету, сталі рэальнасцю. У мінулую пятніцу прэзідэнт ЗША Біл Клінтан абвясціў іх адкрытымі.

Традыцыйная цырымонія адкрыцця атрымалася яркай, маляўнічай, але зацягнутай па часе і цяжкай. Вынікі аказаліся трагічнымі — адразу па заканчэнні свята страціў прытомнасць ды так і не прыйшоў да сябе прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Польшчы Ежы Пятрушык. Тое самае ледзь не здарылася з кіраўніком спартовага ведамства Таджыкістана, аднак дактары вярнулі яго да жыцця.

У парадзе сярод дэлегацый 197 краін была прадстаўлена і нашая. Сцяг краіны нёс Аляксандр Мядзведзь, пераможца трох Алімпіяд. А бліжэй да канца дзеі арганізатары наладзілі своеасаблівае рандэву алімпійцаў мінулых гадоў. Старэйшынам тут быў Леон Штукель, чэмпіён Алімпійскіх гульняў 1924—1928 гадоў. Яго віталі вядомыя плыўцы Даўн Фрэзер і Марк Спітц, скакун у даўжыню Боб Бімон, скакун у ваду Грэг Луганіс, гімнасты Мэры-Лу Рэтон і наш Віталь Шчэрба. А права запаліць полымя Алімпіяды было дадзена аднаму з найвялікшых баксёраў стагоддзя — 54-гадоваму Махамеду Алі, якога аматары спорту старэйшага пакалення памятаюць як пераможцу Рымскай Алімпіяды і шматразовага чэмпіёна свету сярод прафесіяналаў у цяжкой вазе. Цяпер Алі цяжка і невылечна хворы — у яго хвароба Паркінсона. Тым больш высакародны жэст арганізатараў Алімпіяды.

*КУЛЯВАЯ СТРАЛЬБА:*
**ТЭАТР КЛАСІЧНАЙ ДРАМЫ**

Вось ужо шмат гадоў стралкі першымі разыгрываюць алімпійскія ўзнагароды. У Атланце яны разыгралі яшчэ і «маленькія трагедыі». Сярод 49 жанчын — стралкоў з пнеўматычнай вінтоўкі — былі Вольга Паграбняк і Ірына Шылава. Вольга пасля 40 выстралаў прайшла ў фінальную васьмёрку, а Ірына, на жаль, стала дзявятай. Фінал Паграбняк пачала здорава, аднак, як толькі выйшла на другое месца, — не вытрымала і ў выніку засталася пятай. А лідзіравала немка Петра Хорнебер. Апошні выстрал яна магла зрабіць ў дзевятку, але атрымалася горш — 8,8. Полька Рэната Маўэр, наадварот, страляла спакойна — 10,7! У выніку яна абышла на дзве дзесятыя расхваляваную Хорнебер. На трэцім месцы Аляксандра Івосеў з Югаславіі.

У мужчын — стралкоў з пнеўматычнага пісталета — усё паўтарылася, толькі яшчэ вастрэй і рэльефней. Інтэлігентны, самавіты кітаец Юнь Іфу акуратна адпрацаваў 69 выстралаў і адарваўся ад бліжэйшага канкурэнта Раберта дзі Доны (Італія) на цэлыя чатыры ачкі! Ён мог дазволіць сабе раскошу не трапіць у дзесятку, у дзевятку, ды што там — у васьмёрку! Нават сямёркі хапіла б для перамогі. Але кітаец, відаць, быў у стане радаснай эйфарыі, не даў сабе рады і — такая блізкая перамога адразу стала недасягальнай: 6,5. Дзі Дона, наадварот, націснуў курок спакойна — 10,6, гэтага яму хапіла, каб апярэдзіць на адну (!) дзесятую нешчаслівага Іфу, які ў хуткім часе самлеў ад спякоты і роспачы. А карэйскага стралка, які ўпусціў «бронзу», дык зусім вынеслі, непрытомнага, на насілках. Такія вось жарсці!

*ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА:*
**АСАДА П'ЕДЭСТАЛА**

У нас заўсёды былі добрыя барцы. Адным з першых алімпійскіх чэмпіёнаў стаў Алег Караваеў у далёкім 1960 г. І цяпер пад кіраўніцтвам другога алімпіёніка — Камандара Маджыдава — падрыхтавана найлепшая каманда. Вясной двое падняліся на еўрапейскі п'едэстал, блізкія былі яшчэ шасцёра.

У Атланце **Аляксандр Паўлаў** (48 кг) і чэмпіён Еўропы-96 **Сяргей Ліштван** (100 кг) да фіналу ішлі, упэўнена перамагаючы сваіх сапернікаў. У вырашальных схватках з чэмпіёнам свету карэйцам Сім Квон Хо і алімпійскім чэмпіёнам Барселоны Анджэем Вронскім з Польшчы нашым трошкі не хапіла фізічнай свежасці і папросту ўдачы. Ёсць два сярэбраныя медалі! **Камандар Маджыдаў** (68 кг) бліскуча справіўся з роляй «іграючага трэнера». Ён дайшоў да паўфіналу, дзе прайграў будучаму пераможцу паляку Рышарду Вольнаму, а ў схватцы за трэцюю прыступку п'едэстала 34-гадовы ветэран саступіў чэмпіёну Расіі Аляксандру Трацціякову. Але ягонае чацвёртае месца — вельмі добры вынік, бо рыхтаваўся Маджыдаў да Гульняў крыху больш за паўгода, а перад тым ужо два гады не займаўся барацьбой.

Байцом паказаў сябе **Валеры Цыленць** (82 кг). Прайграўшы ў другім крузе, ён не меў больш права на памылку. Перамогшы ва ўсіх астатніх схватках, наш атлет стаў бронзавым прызёрам. Дададзім, што 23-гадовы Паўлаў і 26-гадовы Цыленць жывуць у Гродне, а Маджыдаў і 25-гадовы Ліштван — мінчане. Малайцы, хлопцы!

*РЭКОРДЫ:* **ХУТЧЭЙШЫ І ДУЖЭЙШЫ**

На Алімпіядзе ўстаноўленыя ўжо 4 рэкорды свету. Бельгіец Фрэдэрык Дэбургрэйв і Пені Хейнс з Паўднёва-Афрыканскай рэспублікі праплылі 100 метраў брасам за 1.00,60 і 1.07,02 — такія цяпер рэкорды для мужчын і жанчын.

Турэцкі штангіст Халіл Мутлу (54 кг) вырваў штангу вагой 132,5 кг, а кітаец Тан Ніншэнь (59 кг) падняў у суме двух рухаў 307,5 кг. Наш Віктар Сіняк тут быў 12-м — 250 кг.

Пасля двух дзён барацьбы больш за іншых медалёў завявалі: Польшча — (4 залатыя — 0—0), Францыя (3—2—3), Расія (3—2—2), Кітай (3—2—1), ЗША (2—5—2), Бельгія (2—0—1), Турцыя (2—0—0), Германія (0—4—5), Беларусь (0—2—1).

*ВЕЛАСПОРТ:*
**КАРОЛЬ ПАМЁР — НЯХАЙ ЖЫВЕ КАРОЛЬ!**

Пераможцам супергонкі «Тур дэ Франс» упершыню стаў 32-гадовы Б'ярнэ Рыйс з Даніі. На другім і трэцім месцах Ян Ульрых (Германія) і Рышар Віранк (Францыя). Знакаміты Мігель Індурайн, які перамагаў у гонцы пяць папярэдніх гадоў запар, заняў толькі 11-е месца. Пётр Угрумаў з Латвіі — на 7-м, Яўген Берзін (Расія) — на 19-м.

**Сямён ПЛОЦ**

## Ford рыхтуецца да юбілею

**Канцэрн *Ford* распачынае новую тэлевізійную рэкламную кампанію, у ёй возьмуць удзел людзі, якім споўнілася... 90 і нават 100 год.**

Серыю рэкламных тэлешоў *Ford* прымяркоўвае да 100-гадовага юбілею легкавога аўтамабілебудавання, які адзначаецца сёлета. Паводле задумы аўтараў, героямі рэкламы стануць колішнія працаўнікі фірмы, якія яшчэ памятаюць яе заснавальніка — Генры Форда — і ахвотна падзеляцца ўспамінамі пра часы, калі і яны самі, і аўто былі маладыя.

Сам *Ford* сваё 100-годдзе будзе адзначаць яшчэ толькі праз 6 гадоў. Дарэчы, Генры Форд быў даволі жорсткім босам і пастаянна змагаўся з прафсаюзным рухам. Але пра гэта тэлегледачы з рэклам не даведаюцца.

*Паводле паведамленняў агенцтваў Reuter, PAP, матэрыялаў замежнай прэсы падрыхтавала*
**Магдалена НЕПАКАЙ**





Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 39.500
Нумар падпісаны ў друк 22.07.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 257